нумары 8

Першыя | Прадукцыя за долары | Бульбяныя справы

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (457) | ГОД IX | 29 ЛІСТАПАДА 1964 г. | ЦАНА 60 гр.

МАКСІМ ТАНК

* * *

Не спытаўшыся згоды, прыдумалі імя  
Кожнай зорцы, кожнай планеце,  
А яны, пэўна, імёнамі другімі  
Пераклікаюцца ў Сусвеце.  
І калі, пралятаючы міма  
Палярнай ці нейкай Вячэрняй,  
Назавём іх імёнамі чужымі —  
Мо' на нас і увагі не звернуць.

НАША НОВАЯ АКЦЫЯ

## КНІГІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

**Як мы ўжо паведамлялі, на пачатку наступнага года ў Гарадку адкрыецца Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага. Гэта будзе прыгожы культурны аб'ект, які павінен праменяваць на ўсю аколіцу. У яго дзейнасці не малую ролю адводзіцца кніжцы. А вядома, гэта роля будзе выконвацца лепш, калі кніжны фонд Дома культуры будзе багаты. Таму мы аб'яўляем акцыю збірання кніг для Домапомніка ў Гарадку. Апрача матэрыяльнай дапамогі, наша акцыя мае, перш за ўсё, сімвалічны характар. Праз свой удзел у ёй, Вы, дарагія чытачы, выявіце свае сардэчныя адносіны да гэтага прыгожага грамадскага пачыну, якім з'яўляецца Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку.**

**Кнігі і іх ахвярадаўцаў будзем аб'яўляць у «Ніве».**

**Дасылайце кнігі на наш адрас: „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

**Чакаем!**



Кніжка сталася неабходнай рэччу.

Фота І. Рыбінскі

Інтэрв'ю Дваццацігоддзя

**Пад такім агульным загалоўкам мы правядзем размовы на розныя культурныя тэмы. Нашым жаданнем — паказаць у пэўным грамадскім разрэзе аванс культуры і асветы ў Дваццацігоддзі і разам з ім аванс нашага грамадства.**

**Паколькі падставай культуры і асветы з'яўляецца кніжка, мы і даем ёй першае слова.**

**Наша першая размова з Дырэктарам Ваяводскай Бібліятэкі ў Беластоку УЛАДЗІСЛАВАМ МАЛЕЎСКІМ.**

**— Які быў пачатак дарогі кніжкі, якая завяла яе «пад стрэхі» і да ўсіх людзей?**

— Пачалі мы ў 1944 годзе ад нічога. Усё знішчана, бібліятэк і кніжак не было. 2—3 энтузіястаў кніжкі пачалі адграбаць з грузаў, што магло ацалець. Крыху знеслі людзі. Так сабралася 1000 экземпляраў. З імі пачалася праца.

**— А цяпер?**

— Цяпер маем добра абсталяваную Ваяводскую Бібліятэку, 336 бібліятэк у тэрэне і 2157 бібліятэчных пунктаў. Кніг — 1 426 832. 123 чытальні пры бібліятэках, з якіх 96 у вёсках. На 100 жыхароў чытае ў нас з публічнай бібліятэкі 18. Гэта больш чым сярэдняя ў краіне (14). Займаем па колькасці чытачоў 3-ае месца ў краіне.

**— У чым Вы бачыце таямніцу такога поспеху і такой перамогі кніжкі на адсталай Беласточчыне.**




— Выплывае гэта з дзвюх крыніц: кніжка для нашых цяперашніх людзей сталася неабходнай рэччу. Людзі хочуць чытаць, бо зразумелі, што кніжка дае навуку. Па-другое, вялікая заслуга бібліятэкараў, якія ніколі не глядзелі на цяжкасці, не чакалі, калі чытач прыдзе да іх, а ішлі самі да яго.

**— Дыяпазон дзейнасці ваяводскай бібліятэкі?**

— Не толькі вядзем нагляд над бібліятэчнай сеткай ваяводства. Вядзем доследы, якія служаць да шырэйшай папулярызацыі кніжкі ў паасобных асяроддзях. Для прыкладу: даследуем чытальніцтва сярод рабочых, або папулярнасць папулярна - навуковай кніжкі, ці ўрэшце, месца сельскагаспадарчай кніжкі на розных стадыях развіцця вёскі (з сельскагаспадарчым гуртком, ці без яго і гд.).

**— Пару слоў аб кніжцы сур'ёзнай.**

— У нас бачым цяпер агульны паварот ад кніжкі, якая забаўляла, да кніжкі навукова - пазнаўчай. Людзі хочуць ведаць свет, іншых людзей, і знаходзяць гэта праз кніжку. Калі тры гады таму мы мелі сярод усіх чытачоў толькі 4% чытаючых папулярна - навуковыя кніжкі, то цяпер маем іх 9%. Расце ранг кніжкі з грамадскімі пытаннямі, назіраем вялікую цягу да кніжкі сучаснай. Мы не заўсёды можам даць яе столькі, колькі людзі патрабуюць. Нашы фінансавыя сродкі скромныя і не заспакойваюць патрэб чытача.

**— Аванс кніжкі ў нашым Дваццацігоддзі і на нашай Беласточчыне пераканаўча назіраем на падставе вёскі. Гэта нешта зусім новае.**

— Кніжка ў вёсцы зрабіла вялікую кар'еру. Павуціннай ніткай апляла найдалейшыя і найбольш забітыя вёскі, адкрыла акно ў свет. Мы сістэматычна ў далейшым павялічваем сетку грамадскіх бібліятэк. Яшчэ каля 20 бібліятэк з 50 пунктамі і працу над развіццём бібліятэк на вёсцы будзем лічыць закончанай. Застанецца не менш важнае заданне — прыцягнуць усіх людзей да бібліятэкі.

**— Крыху аб формах працы бібліятэкі.**

(Працяг на стар. 3)



Клюковіцкая восень. Фота: Ул. Паўлючук



 

# Косць атлантычнай нязгоды

Тыдзень назад я пісаў аб некаторых гаспадарчых момантах, якія паглыбляюць унутраныя канфлікты Супольнага Рынку. Сёння зоймемся значна шырэйшай справай, якая датычыць усяго Паўночна-атлантычнага пакту, у які ўваходзіць 15 заходніх дзяржаў. Найбольшай косцю нязгоды з'яўляецца здзяйсненне плану так званых шматбаковых ядзерных сіл. Адзін з найбольш рэальна мыслячых амерыканскіх публіцыстаў нядаўна сцвердзіў, што шматбаковыя ядзерныя сілы ніколі не будуць помнікам атлантычнага адзінства, а найцяжэйшым каменем на яго магіле.

Праект стварэння ВСН (шматбаковыя ядзерныя сілы) не з'яўляецца нечым новым. Ён нарадзіўся два гады назад у галовах найбольш ваяўнічых палітыкаў двух урадаў — ЗША і ФРГ. Але абодва ўрады мелі на гэта свае планы. ЗША бачылі ў здзяйсненні праекта ВСН магчымасць затармазіць імкненні некаторых дзяржаў Заходняй Еўропы да незалежнасці ад ЗША, як гэта было перш за ўсё з Францыяй.

Заходняя Германія бачыла і далей бачыць у ВСН простыя і хуткія шанцы на атрыманне атамнай і вадароднай зброі. Для яе пакуль што залежнасць ад ЗША не з'яўляецца перашкодай у здзяйсненні сваіх далёкіх палітычных планаў, разлічаных, як вядома, на паглыбленне напружання паміж Усходам і Захадам. Аднак справа ў тым, што імкненні і пазіцыя Бона, зразумелыя кожнаму і на Захадзе, узбуджаюць асцярогу і няпэўнасць. Калі нават асцярога некаторых партнёраў атлантычнага пакту не вынікае з клопатаў аб паляпшэнні міжнародных адносін, дык з нежадання ўмацоўваць і так ужо значную ролю Заходняй Германіі. Вядома, што ўжо сёння ФРГ займае другое месца (пасля ЗША) у патэнцыянале НАТО. Як у Парыжы, так і ў Лондане, не гаворачы ўжо аб іншых членах НАТО, разумеюць, што, калі дадаць да існуючага ўзбраення бундэсвера яшчэ ядзерную зброю разам з магутнымі ракетамі, гэта дало б Заходняй Германіі магчымасць дыктаваць свае палітычныя ўмовы ўсяму заходняму саюзу.

У мінулым тыдні сесія парламенцёраў краін НАТО паказала, што існуючыя на фоне праекту ВСН спрэчнасці ўнутры заходняга саюза маюць не пераходны характар, а гэта трывалая з'ява. Толькі адмова ад ВСН магла б вярнуць, хоць з выгляду, атлантычнае адзінства. Але гэта быў бы толькі выгляд, бо такім абаротам справы не задаволіліся б ні ЗША, ні ФРГ. Адмова ад ВСН азначала б перамогу канцэпцыі дэ Голя — стварэнне самастойнай і незалежнай ад ЗША Заходняй Еўропы. Паколькі такое вырашэнне здаецца зусім нерэальным, Паўночна-атлантычны пакт становіцца перад выбарам: стварэнне ВСН толькі з удзелам ЗША і ФРГ, або стварэнне тых самых сіл з дадатковым удзелам Вялікабрытаніі і некалькіх слабейшых партнёраў, як Турцыя або Грэцыя. Гэтае другое вырашэнне дало б Вялікабрытаніі некаторыя выгады, бо яна ў рамах ВСН хацела б захаваць сваю дагэтуляшнюю, другую пасля ЗША пазіцыю і падрыхтоўвае ў гэтай справе ўжо ўласныя прапановы.

У дены момант найбольш рэальным здаецца стварэнне ВСН з удзелам толькі двух партнёраў — ЗША і ФРГ. Аднак такія крокі не толькі не аслабілі б заходнія супярэчнасці, а яшчэ прывялі б да поўнай змены сіл у НАТО. Па-за пактам, праўдападобна, аказалася Францыя, якая не прадказвае ніякіх змен у замежнай палітыцы і ў сваіх крытычных адносінах да ВСН.

Імкнучыся, відавочна, знайсці нейкі сярэдні выхад з такога драматычнага становішча, прыхільнікі ВСН не гавораць ужо аб канцы бягучага года як аб канчатковым тэрміне стварэння гэтых сіл, толькі аб канцы лютага будучага года. Аднак можна сумнявацца, ці гэты квартал часу зможа ліквідаваць хоць адну з супярэчнасцей заходнеімперыялістычнага саюза.

**Ул. ЛАЗІНСКІ**




# ЗА ДАЛЕЙШЫЯ ПОСПЕХІ

Нарада прадстаўнікоў паасобных гурткоў і актыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Сакольскім павеце адбылася ў новым памяшканні аддзела. Кароткай прывітальнай прамовай адкрыў яе намеснік старшыні Віталі Чыжэўскі. З дакладам ад імя Праўлення аддзела выступіў інструктар ГП на Сакольшчыну Сяргей Крышэнь. Схарактарызаваў ён дзейнасць таварыства, закрануў усе яго недахопы і хібы ў працы.

Даволі наракаць, што мала робіцца, а трэба ўсім разам актыўна ўзяцца за работу, і толькі тады будуць добрыя вынікі — вось асноўная думка, якая вынікала з даклада.



**Намеснік старшыні Сакольскага аддзела Віталі Чыжэўскі, кіраўнік партыйнай прапаганды пры Павятовым Камітэце ПАРП Расціслаў Мадзалеўскі і сакратар аддзела Уладзімір Артэмюк.**

Калі члены гуртка намагаюцца нешта карыснага рабіць, тады вынікі абавязкова будуць. Аб гэтым гаварыла Ніна Дабрэнка — прадстаўнік гуртка з Сухініч.

— Апрача мастацкай самадзейнасці з нашай ініцыятывы сарганізаваўся праблемны курс беларускай мовы і літаратуры, на які прыходзіць моладзь з нашай вёскі.

Сакратар Сакольскага гарадскога гуртка Галіна Конан расказала аб планах арганізавання клубнай працы ў памяшканні аддзела. Прадбачвае яна многа цікавых форм культурнай дзейнасці, якія будуць прыцягваць членаў і сімпатыкаў БГКТ. Цэлымі гадамі Сакольскі гурток не праяўляў дзейнасці. І толькі ад нядаўна па-сапраўднаму ўзяўся за працу.

Актывіст аддзела Оля Паўлючук падзялілася ўражаннямі з апошняга сходу ў сваім падапечным гуртку БГКТ у Новым Востраве.

— У школе, — гаварыла яна, — сабралася шмат моладзі. Супольна абмяркоўвалі мы, як разгарнуць працу гуртка ў асенне-зімовым перыядзе ў час доўгіх вечароў. Амаль у ва ўсіх думка пакрывалася, а менавіта, падшукаць цікавую п'есу, развучыць ролі і выступаць не толькі ў сваёй, але і ў суседніх вёсках



**Даклад чытае інструктар ГП БГКТ на Сакольшчыну Сяргей Крышэнь.**



**Прадстаўнікі гуртка з Піражкоў, старшыня Міхась Лабрэньчук, сакратар Алег Алекша і член Міхась Чаховіч.**

На сходзе 11 асоб выявіла сваё жаданне быць членамі БГКТ.

Прыбыццё прадстаўніка з Павятовага праўлення БГКТ робіць сход больш цікавым, сур'ёзным. Але здаралася і так, што гэты прадстаўнік многа чаго наабяцае і потым туды зусім не з'явіцца. Гэтыя непрыемныя справы закрануў у сваім выступленні Іван Куклік з Паўднёвага Вострава.

— Пастанавілі мы, — працягваў ён, — сарганізаваць курс язды на матацыкле і курс кройкі і шыцця. Усе арганізацыйныя справы звязаныя з курсамі запэўніў нам уладзіць Янка Беразавец. На жаль, больш у нашу вёску ён не паказаўся.

У працу гурткоў укладваюць шмат працы настаўнікі. Але не ўсе. Як сказаў сакратар праўлення аддзела Уладзімір Артэмюк ёсць нават і такія настаўнікі, як кіраўнік школы ў Вярхлессі, якія зусім не жадаюць, каб там сарганізаваўся гурток БГКТ.

— Многа розных цяжкасцей спатыкаюць у працы гурткі БГКТ на вёсцы. Каб удачна вырашаць усе хвалюючыя праблемы, неабходна звяртацца да партыйных арганізацый, да сакратароў Грамадскіх камітэтаў ПАРП. Яны не толькі могуць, але яны абавязаны дапамагаць вашай арганізацыі.

Словы гэтыя былі выказаны кіраўніком партыйнай прапаганды Павятовага Камітэта ПАРП таварышам Расціславам Мадзалеўскім.

Цікавымі і змястоўнымі былі выступленні Леанарда Тамашэўскага, Уладзіміра Аніські, Віктара Рагацэвіча, Сяргея Авэрчука, Алега Алекшы і іншых. Плённую дыскусію, якая павінна дапамагчы ў працы аддзела, падсумаваў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Уладзімір Юзвюк.

Нарада паказала, што Сакольскі аддзел БГКТ мае актыўнае праўленне, моцны актыў, які сваёй ахвярнай працай можа многа зрабіць карыснага ў дапамогу гурткам.

Тэкст і фота
**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

Беларусіяна

# ПРА НАДЗЕІ

Як мы ўжо паведамлялі, пры Ваяводскім Праўленні ЗМВ у Беластоку ўтворана Карэспандэнцыйны Клуб пачынаючых пісьменнікаў, які ўзначаліў паэт Аляксей Казберук. З гэтай нагоды ў «Дзенніку Людовым» змешчана артыкул «Беластоцкія надзеі», які напісаў літаратурны крытык др Пётр Кунцэвіч. Ён піша:

«Літаратурнае і культурнае асяроддзе Беластока ўсё яшчэ з'яўляецца дэзінтэграваным. Часовыя ініцыятывы ваяводскага дома культуры або мясцовага літаратурнага клуба не змаглі зрабіць рашаючага ўплыву на культурнае жыццё ваяводства. Штопраўда, існуюць інстытуцыі і культурныя выдавецтвы беларусаў... аднак жа іх уплыў са зразумелых прычын з'яўляецца абмежаваным. У сучасны момант наглядаем карысныя змены...»

Пішучы аб ініцыятыве ЗМВ аўтар артыкула «Беластоцкія надзеі» характарызуе Клуб пачынаючых пісьменнікаў такімі словамі:

«Беластоцкі клуб (з прычыны свайго геаграфічнага размяшчэння называюць яго ў кулуарах «Усходнім») адрозніваецца ад іншых падобных аб'яднанняў асаблівай рысаю: згуртоўвае ён не толькі палякаў, але і беларусаў, зацікаўленых літаратурнай творчасцю. Дарэчы, такога вырашэння патрабуе сама рэчаіснасць, нарэшце прадуманая ўсур'ёз, спецыфіка акругі».

Др Пётр Кунцэвіч — гэта вядомы аўтар шматлікіх паэтычных праграм варшаўскага тэлебачання. Яго выступленне на старонках «Дзенніка Людовага» з'яўляецца каштоўным заахвочаннем для пачынаючых беластоцкіх паэтаў і празаікаў — палякаў і беларусаў. Значную частку свайго артыкула прысвяціў ён характарыстыцы некаторых з іх. Прытым надрукавана вершы Аляксея Казберука: «Ткалля званая жаданнем» і «Ткалля зялёнай метафары».

Ілюстраваны часопіс «Зажэве» ў нумары ад 15 лістапада г. г. змясціў імпрэсію С. Яновіча «Сыну», перакладзеную на польскую мову Аляксеем Казберуком. Надрукавана таксама інфармацыю наконт Клуба і яго спецыфікі.

**(а-ся)**

СЕЎЦЫ ВЫСАКАРОДНАГА І ШЛЯХЕТНАГА

# ЖАДАННЕ ВУЧЫЦЬ



**«Нарадзілася я ў 1904 годзе ў Варшаве. Бацька працаваў на чыгунцы. Наша сям'я складалася з чатырох асоб: бацькі, маці, малодшага брата і мяне. Да дзесяцігадовага ўзросту жыла і вучылася ў пачатковай школе ў Варшаве. З надыходам фронту І сусветнай вайны сям'я наша эвакуіравалася ў г. Нарву (Эстонія). Там памёр мой бацька. Перамагаючы ўсе цяжкасці, я ў 1924 годзе закончыла гімназію. Хацела стаць настаўніцай, але ў буржуазнай Эстоніі гэта было немагчыма. У пошуках хлеба прыйшлося пайсці працаваць ткачыхай на тэкстыльную фабрыку. Працавала я на фабрыцы тры гады. У 1928 годзе вярнулася я ў Польшчу. Паспрабавала тут знайсці працу ў асвеце, але працы не атрымала. Прыйшлося разам з мужам гаспадарыць на вузкім сялянскім загоне. Мае мары стаць настаўніцай збыліся толькі ў верасні 1939 года, калі на Беласточчыне была ўстаноўлена савецкая ўлада. З якім хваляваннем я ішла на свой першы ўрок!..**

**Сонечным і веснавым быў мне той вераснёўскі дзень, калі я ўпершыню стала ў класе перад гуртам дзяцей маіх аднавяскоўцаў, суседзяў, знаёмых. Цяпер яны былі маімі вучнямі — самымі дарагімі і блізкімі мне істотамі. Я імкнулася даць ім веды аб іх саміх, аб беларускім народзе, аб нашай роднай мове. Але спакойна працаваць доўга не давялося. У 1941 годзе хлынула гітлераўскае нашэсце... Пачаліся жудасныя дні. З рук фашыстаў загінулі мой муж і брат. І мне пагражала небяспека, але перамагло жаданне вучыць. Па просьбе бацькоў я стала патаемна весці заняткі з дзяцьмі. І аднаго разу на мой урок з'явіўся сам амсткамісар... Абамлела ўсё ва мне, думала — канец... Аднак аднавяскоўцы і бацькі маіх вучняў абаранілі мяне. І зноў з прыходам Савецкай Арміі на Беласточчыну ў 1944 годзе я вярнулася ў школу, у тую самую школу, у якой я пачынала мой спознены, але як жа ж дарагі мне, настаўніцкі шлях».**

**Н. САВІЦКАЯ**
Трасцянка,
Гайнаўскага павета



 

# КЛЮКОВІЦКАЯ ВОСЕНЬ

Клюковіцкая восень, як восень наогул — пахмурная, дажджлівая і халодная. Мужчыны ў цёмных халатах, жанчыны пааб-кручваныя цёплымі хустками, цёпла адзетыя малышы. Не гледзячы, аднак, на познюю восень, у лістападаўскія халодныя дні на полі ў Клюковічах ідзе праца. Не таму, аднак, што Клюковічы спазняюцца з работаю. Канец кастрычніка і пачатак лістапада — гэта сезон на ўборку буракоў, а ў Клюковічах — буракі адна з найважнейшых сельскагаспадарчых культур. Некаторыя з клюковіцкіх гаспадароў кантрактуюць на цэлым гектары, а нават і больш, цукровых буракоў. Пункт скупу ў Клюковічах купляе ад тутэйшых сялян 1200 тон буракоў у год. Калі ўлічыць, што плаціцца сялянам па 60 злотых за кожных 100 кілаграмаў буракоў, тады не цяжка палічыць, што ў сезоне сяляне Клюковіцкай ГРН атрымліваюць за буракі каля 720 тысяч злотых, а на самую вёску Клюковічы ідзе звыш 120 тысяч злотых.

На грашах, аднак, не канчаюцца бурачаныя карысці. Праз усю восень бурачанае лісце выкарыстоўваецца як корм, а вясною сяляне атрымліваюць тзв. «выслодкі», якія атрымліваюцца пры пераапрацоўцы буракоў на цукар. Гэта зноў дасканалы корм для кароў.

Цікава, аднак, што нават пры такіх наяўных карысцях не ўсе сяляне ў Клюковічах займаюцца кантрактацыяй гэтай карыснай культуры.

— Чаму? — пытаю клюковіцкага солтыса.

— Ат, — адказвае солтыс, — проста баяцца, што могуць, скажам, не ўрадзіць.

Ды наогул многія ў Клюковічах баяцца многіх рэчаў, якіх баяцца не трэба. Вось хаця б, для прыкладу, сельскагаспадарчы гурток. У вёсцы звыш 100 гаспадароў, а ў сельскагаспадарчым гуртку ўсяго 20.

— Чаму? — пытаю прэзэса сельскагаспадарчага гуртка.

— Баяцца, што можа ў гуртку будзе дрэнна, — адказвае той. (п)



Восень у клюковіцкім садзе (сад налічвае каля 500 дрэвак і апякуецца ім зараз сельскагаспадарчы гурток).



Апошнія парадкі ў агародзе.



Клюковіцкі пункт скупу купляе ад сялян каля 1200 тон буракоў у год.

# УПАРАДКАВАНЫЯ БАЛОТЫ І НЕУПАРАДКАВАНЫЯ КЛОПАТЫ

Меліярацыю сенажацяў у многіх вёсках сяляне лічаць галоўным сваім дасягненнем за часы народнай улады.

— Хто калісьці мог бы падумаць, — гавораць, напрыклад, у Тынявічах, — што па тынявіцкіх балотах можна будзе хадзіць, як па таку. Калісьці тут нельга было прайсці, праехаць. Бывала так: улезе ў балота конь або карова і трэба ісці за хвост выцягваць. А цяпер суха — хоць качайся.

Нядаўна быў я на былых тынявіцкіх балотах. Сапраўды цяпер тут суха і прыгожа. На заараней летам пашы зеляніць засеяная маладая трава. Люба паглядзець!

Цешацца з гэтага сяляне, цешыцца праезжы госць.

— Не так даўно, — разказвае тынявіцкі солтыс, Ян Маліш, — людзі выходзілі трактар перапыняць. Гаварылі, што з гэтага балота нічога талковага не можа быць, ды яшчэ прыдзецца за ўсё плаціць. А каб вы ведалі, колькі я мусіў нахадзіцца па хатах, каб прымусіць людзей угнаенне рассяваць, а потым траву сеяць! А цяпер усім карысць і ўсім добра.

Не ўсюды, аднак, меліярацыйныя справы так добра канчаюцца, як у Тынявічах. Вось хаця бы суседняя вёска Лапухоўка. Разам з тынявіцкімі сенажацямі змеліяравана тут балота, засеяна траву і на свежую зелень лапухоўскія сяляне пусцілі стада авечак. Авечкі, зразумела, усё нанава змяшаюць з зямлёй, выгрызуць з карэннямі, стопчуць і на наступны год нічога тут не будзе. Але ўсё гэта нічога ў параўнанні з клопатамі, якія маюць з меліярацыяй жыхары вёскі Вычулкі ў Сямяціцкім павеце. Ужо трэці год аб меліярацыі тут толькі і размова. Людзі злуюцца, сварацца, лаюць працаўнікоў меліярацыі, ездзяць у павет, выбіраюцца нават ехаць у міністэрства.



Сяляне з Лапухоўкі пусцілі на свежую траву стада авечак



Пры меліяраванні балот сяляне з Тынявічаў уложылі шмат працы грамадскім чынам. На здымку: масток нядаўна пабудаваны тынявіцкімі гаспадарамі грамадскім чынам.

Праблем тут цэлая горба: то ўгнаенні не так рассеялі, то насення травы ўсім не хапіла і г.д. Не думаю, каб прычынай непаразумленняў быў толькі сварлівы характар жыхароў Вычулак. У пэўнай ступені вінаваты тут улады, якія праводзяць меліярацыю.

А вось прыклад. Праз змеліяраваныя сенажаці плыве рэчка Пульва. У летнюю пару — гэта адзінае месца, дзе быдла з Вычулкаў можа напіцца вады. Цяпер, каб не знішчыць меліярацыйных абсталяванняў, паіць каровы можна толькі ў вызначаным месцы, тзв. «вадапоі». Вадапой гэты так пабудаваны, што да вады дайсці можа толькі некалькі кароў. Каровы не людзі — не разумеюць, пхаюцца адна на адну, не выпускаюць тых, што напіліся, боруцца і калечацца. Сяляне прасілі працаўнікоў меліярацыі, каб пашырылі ім вадапой, тыя толькі паказалі пальцам карту і адказалі:

— У плане так пастаўлена і так павінна быць.

Сяляне ў Вычулках маюць наогул многа прэтэнзій да меліярацыйных планаў. Тлумачаць яны, напрыклад, што глеба гэтая не надаецца да засявання травы, якую тут засеяна, што равы пакопаны не так, як трэба (на сухіх высокіх месцах, дзе вады ніколі не было і не будзе) і г. д.

— Пайдзіце самі, пагледзіце, што яны там натварылі, — гаварыў вычулкаўскі солтыс.

Глядзець я не пайшоў, бо на меліярацыі абсалютна не разумеюся. І не ведаю, наколькі сяляне маюць у гэтым усім рацыі. Думаю, аднак, што адпаведныя ўлады маглі б дакладней растлумачыць сялянам справы звязаныя з меліярацыяй іх палёў. Заашчадзіла б гэта і сялянам і ўладам спакою і здаровых нерваў.

**Ул. Паўлючук**

# І МЫ ПРАЦАВАЛІ

На Гайнаўшчыне малавата аўтобусных прыстанкаў. Часта прыходзіцца стаяць на дажджу, ці ў снежную завіруху на марозе. У сувязі з XX-годдзем Народнай Польшчы і IV З'ездам ПАРП насельніцтва грамады Новаберазова пастанавіла пабудаваць пачакальню ля шашы Бельск - Гайнаўка. У кастрычніку пачалася будова. Між іншым можна было ўбачыць тут і нас, вучняў VII класа з пачатковай школы ў Новаберазове.

**Грыша Парфенюк**
Хітра

# ПАРУ СЛОЎ ПРА БЕЛЬШЧЫНУ

У Бельскім павеце пабудавана дваццаць дзве святліцы. Сёлета пачата будову пяці новых святліц, у чым нямала дапамагае насельніцтва, якое прымае актыўны ўдзел у грамадскіх чынах. Адкрыта 13 клубаў «Руху». У асенне-зімовы перыяд будзе адкрытых яшчэ 8 клубаў «Руху».

Вышэй прыведзеныя лічбы наглядна паказваюць, што выдатна палепшыліся магчымасці для развіцця культурна-асветнай працы ў нашых вёсках. У выкарыстанні гэтых магчымасцей асаблівая роля належыць гурткам ЗМВ, а таксама БГКТ. Мясцовыя грамадскія рады стараюцца раздабыць тэлевізары для святліц і клубаў, і ў гэтым старанні патрэбная дапамога вясковых арганізацый. З'яўленне тэлебачання ў культурна занядбаных і сонных вёсках выклікае цікавасць да жыцця, спрыяе росту культурных патрэб людзей.

Цікава, што тэлевізія спрыяе росту чытальніцтва, людзі пачынаюць цікавіцца самымі **рознымі** кніжкамі і часопісамі, не толькі рамансамі.

На тэрыторыі павета існуе 25 бібліятэк і 151 бібліятэчных пунктаў. Знаходзіцца ў іх звыш 108 тысяч тамоў кніжак. Для параўнання цікава ведаць, што перад вайною цэлае Беластоцкае ваяводства мела ўсяго 295 тысяч тамоў кніжак. Бельскія бібліятэкары маюць свае вялікія дасягненні. На Бельшчыне чытаюць на тры працэнты больш кніжак, чым у цэлым ваяводстве, і на **пяць** працэнтаў больш ад сярэдняга стану чытальніцтва ў Польшчы. Таму гэты павет належыць да адных з найбольш, так сказаць, ачытаных. Словам, пахвальныя вынікі ў бельскіх бібліятэкараў.

Сезон культурна-асветнай дзейнасці распачаўся. Дагэтуль існавала ў бельскіх вёсках 23 асветныя гурткі і чатыры вечаровыя універсітэты. Пры ўдзеле вясковай і гарадской інтэлігенцыі адбылося шмат папулярных гутарак і лекцый на разнастайныя тэмы. Аднак у параўнанні да рэальных магчымасцей зроблена значна менш, чым можна было спадзявацца. Амаль не адбываліся ніякія гутаркі і лекцыі ў клубах «Руху», якіх ёсць шмат. Надта мала выкарыстаныя магчымасці, якія мае павятовы дом культуры — кароткаметражныя фільмы на папулярна-навуковыя тэмы, праектары, магнітафоны і т. п.

Вёска імкнецца да культуры і гэта не навіна. Акцыя **«Вёска бліжэй тэатра»** знайшла шырокі водгук на Бельшчыне. Напрыклад, асветны гурток у Паўлах здабыў у гэтай акцыі адно з першых месц, за што атрымаў узнагароду ў форме пакупкі патрэбнага абсталявання для культурна-асветнай дзейнасці. Вартасць пакупкі складае **трыццаць тысяч** злотых.

Не менш важнымі цэнтрамі папулярызацыі культуры з'яўляецца кіно. На тэрыторыі павета існуе пяць пастаянных кіно, у асноўным у мястэчках. Зразумела, што гэта яшчэ далёка да задавальнення сапраўдных патрэб вясковага насельніцтва. У некаторай меры патрэбы насельніцтва задавальняе аб'язное кіно, якое пастаянна даязджае да трыццаці пяці вёсак.

Аднак найбольш істотным дасягненнем у галіне асветы і культуры з'яўляецца ўсеагульная пачатковая адукацыя. Да вайны толькі лічаныя асобы мелі магчымасць закончыць сямікласную школу. У сучасны момант заканчэнне сямікласнай школы з'яўляецца проста абавязкам кожнага. Ва ўмовах санацыйнай рэчаіснасці мільёны непісьменных і малапісьменных людзей знаходзіліся па-за жыццём, асвета і культура была недасягальнай канфартабельнасцю даступнай толькі панам або людзям, як гаварылася, «пры грашах».

Цяпер даволі толькі мець ахвоту, даволі быць працавітым, ну, і крыху ўпартасці. Гэтыя словы асабліва датычаць бельскай моладзі, якая вучыцца ў **шасці** сярэдніх школах у павятовым Бельску-Падляшскім. Моладзь — гэта, пераважна, дочкі і сыны гаспадароў навакольных вёсак. (С. Я.)

